Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
22 сакавіка 2001 г.
№ 12 (508)
Кошт 85 рублёў

## Гарадзенцы адсвяткуюць Дзень Волі

**Гарадзенскі гарвыканкам дазволіў правядзенне ў нядзелю, 25 сакавіка, на Дзень Волі мітынгу з 14 да 16 гадзін.**

Два тыдні таму 11 жыхароў Гродна падалі ў гарвыканкам заяўку на правядзенне святочнага мітынгу на плошчы Леніна. Сваім рашэннем выканкам перанёс месца мерапрыемства на ўскраіну Гродна - у парк імя 40-годдзя ВЛКСМ, называемы сярод жыхароў «сабачнікам».

Як стала вядома ПАГОНІ, пасля абмеркавання адказу гарвыканкама, аргкамітэт па святкаванні Дня Волі прыняў рашэнне праводзіць мерапрыемства ў дазволены час з 14 да 16 гадзін. Месцам збору ўдзельнікаў святкавання застаецца плошча Леніна, сімвалічна перайменаваная гарадзенцамі тры гады таму ў пляц Волі.

## Пашкевіча будуць судзіць ?

**Старшыня гарадзенскага гарвыканкама Анатоль Пашкевіч у сваіх выступах па мясцоваму тэлебачанню і радыё назваў арганізатараў святкавання ў Гродне 25 сакавіка «паліцаямі ў трэцім пакаленні». Больш таго, Анатоль Пашкевіч запрасіў жыхароў Гродна не пускаць сваіх дзяцей на мерапрыемства. Паводле словаў старшыні гарвыканкама, гэтак званыя «новыя адраджэнцы», паліцаі ў трэцім пакаленні», будуць прыкрывацца на мітынгу дзецьмі.**

11 заяўнікаў мітынгу, прымеркаванага да чарговай гадавіны абвяшчэння БНР, расцанілі выказванні Анатоля Пашкевіча як абразу і прынялі рашэнне падаць на яго ў суд.

Тым часам у Гродне распаўсюджваюцца улёткі «Зробім Беларусь вольнай!», якія запрашаюць гарадзенцаў на святкаванне Дня Волі. Збор абвешчаны ў 14 гадзін на плошчы Леніна.

Павал Мажэйка

## З Гродна ў Менск – самалётам!

**З 13 красавіка дзяржаўнае прадпрыемства «Гомельавія» плануе аднавіць паветраныя зносіны з Менскам і Гроднам. Заяву аб гэтым зрабіла 19 сакавіка дырэкцыя прадпрыемства. Адпаведна словам намесніка дырэктара «Гомельавія» Мікалая Чарнякова, які курыруе лётна-тэхнічны комплекс, аднаўленне палётаў неабходнае для падтрымання працаздольнасці лётнага складу і парка самалётаў, якія апошнім часам абсалютна не былі запатрабаваныя ў Беларусі.**

Рэйсы будуць ажыццяўляцца тройчы на тыдзень. Пералёт з Гомеля ў Менск зойме 45 хвілінаў (лайнеры будуць прызямляцца ў аэрапорце «Менск-1»), а з Гродна ў Менск - крыху больш.

Палёты будуць ажыццяўляцца самалётам «АН-24», які мае 48 пасадачных месцаў. Тарыфы на білеты пакуль не зацверджаныя. Аднак, як зазначыў Мікалай Чарнякоў, нават калі ў цану білета ўвойдзе толькі кошт паліва, гэта складзе каля 15 тысяч рублёў.

Ірына Шанцава




**22, 23 сакавіка** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра **22, 23 сакавіка** ўначы -5...-10, месцамі - да -15, удзень -2...+3.

# З Днём Волі, землякі!

## Зварот да беларускага народу

**Дарагія Суродзічы!**

**Вітаю ўсіх Вас з найвялікшым нацыянальным асягненьнем беларускага народу ў XX стагодзьдзі - Актам 25-га Сакавіка, якім нашыя продкі абвесьцілі ў 1918-м годзе вольнай і незалежнай нашую Бацькаўшчыну - Беларусь.**

Жадаю, каб гэты Дзень Волі спрычыніўся да яшчэ большай веры ў нашую будучыню ды даў яшчэ больш сілаў і мужнасьці ўсім тым, хто змагаецца за незалежнасьць Бацькаўшчыны і лепшую долю беларускага народу.

Хацела б сёньня аднак зьвярнуцца найперш да тых суродзічаў, ад якіх у такой вялікай ступені будзе залежаць у гэтым годзе будучыня нашага народу, але якія дасюль



Івонка Сурвілла

яшчэ не ўсьвядомілі сабе гэтага. Бо яшчэ не задумаліся над роляй, якую кожны зь іх можа адыграць, каб выратаваць наш край і наш народ ад новага заняпаду ў складзе чужой імпэрыі.

Адбудуцца ў гэтым годзе выбары новага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Калі яны будуць праведзеныя дэмакратычна і вольна. Вы будзеце мець мажлівасьць аддаць ваш голас новаму Прэзыдэнту або дыктатару, які ўжо сем гадоў абяцае вам лепшую будучыню. Ад вас будзе залежаць, ці вашым новым лідарам станецца шчыры, адданы беларускі патрыёт, найбольшай каштоўнасьцю якога будзе незалежнасьць вашай дзяржавы і ваш дабрабыт, ці маскоўскі паслугач, адзіным заданьнем якога будзе сьцерці беларускую дзяржаву з мапы сьвету.

І вось у гэтыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі пасьля болей як стагодзьдзя геройчнага змаганьня нашых прадзедаў за волю, хачу вас папрасіць, дарагія Суродзічы, каб вы іх прыгадалі. Каб вы ўзгадалі Кастуся Каліноўскага, які з-пад шыбеніцы яшчэ прасіў вас, каб не дапусьцілі маскалёў да уллады над вамі. Каб прыгадалі Вацлава Ластоўскага і тых сябраў Рады БНР, якія заплацілі сваім жыцьцём за тое, што паверылі маскоўскай прапагандзе ды вярнуліся з выгнаньня, каб змагацца на Бацькаўшчыне за ваш дабрабыт і за вашае шчасьце. Каб узгадалі тысячы добрых беларусаў, якія загінулі ў гулагах толькі таму, што яны былі добрымі і сумленнымі людзьмі. Каб прыгадалі тысячы суродзічаў, якія знайшлі вечны супачын не на сваёй зямельцы, а на выгнаньні. Дзе яны ўсё жыцьцё прысьвяцілі змаганьню за лепшую долю свайго народу. Гэта значыць вашую, мае дарагія Браты і Сёстры.

Магчыма, гэта дазволіць вам усьвядоміць, дзе праўда, а дзе хлусьня, дзе шчасьце і дабрабыт, а дзе няволя; дзе сапраўды сьветлая будучыня, а дзе далёкая Поўнач, сібірскія гулагі ды чужыя войны. Гэта дазволіць вам абраць лепшую будучыню для вас самых і для вашых дзяцей.

Тут мне хацелася б ізноў зьвярнуцца да беларускіх жанчынаў. Бо яны ў сваіх сэрцах адчуваюць, што лепей для іхных дзетак: ці свая незалежная краіна, без чужых наменклатуршчыкаў ды АМАПаўцаў, ці чужацкая імпэрыя, якая ніколі не турбавалася пра іхны лёс, а толькі старалася выкарыстаць іх для сваіх уласных інтарэсаў.

Хачу папрасіць старэйшае пакаленьне, да якога належу я сама: не давайце нікому пераконваць вас, што чужынцы забясьпечаць вашую будучыню лепш, як вашыя сыны і дочкі.

Хачу зьвярнуцца таксама да «новых» беларусаў, усіх тых, што не нарадзіліся ў Беларусі, але так палюбілі яе, што лічаць сваёй сапраўднай Бацькаўшчынай. Зрабіце ўсё, што ў вашых сілах, каб Беларусь сталася вольнай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай. Бо ў такой дзяржаве і вашае жыцьцё будзе лягчэйшым і лепшым. У 1918-м годзе Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дбала пра дабрабыт сваіх меншасьцяў, задоўга перад Дэклярацыяй Правоў Чалавека.

І напрыканцы хачу зьвярнуцца да чыноўнікаў і службоўцаў, ад якіх у вялікай ступені залежыць будучыня нашай Бацькаўшчыны. Больш як хто іншы, вы адказныя за дабрабыт і шчасьце нашага народу. Ваш абавязак - ратаваць Бацькаўшчыну, калі ёй пагражае небясьпека, а не выконваць загады «зьверху», калі той «верх» варожы нашаму народу. У 2001-м годзе Бацькаўшчына патрабуе, як ніколі, вашай лаяльнасьці, вашай адданасьці, вашага патрыятызму.

Дарагія мае Суродзічы, у гэты ўрачысты мамэнт, калі наш народ будзе сьвяткаваць свае Сьвята Годнасьці, скажыце сабе раз і назаўсёды, чаго вы жадаеце для сябе і для сваіх дзяцей. Калі гэта зробіце, дарога НАПЕРАД вам выдасца прасцейшай і лягчэйшай. А калі мы выйдзем усе разам «шчыльнымі радамі», тады пераможам усе цяжкасьці й нядолі. Зробім, як сказана ў малітве, «шчасьлівай краіну нашу і наш народ».

**Дык памажы нам Божа!**
**Жыве Беларусь!**

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады**
**Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Чужына, сакавік 2001 году**

## Мы вольныя?

**25 сакавіка - Дзень Волі. Волі, за якую калісьці паклалі галовы лепшыя сыны і дочкі Беларусі. Волі, якая дазваляе нам быць людзьмі. Волі, якая дае нам права называцца Беларусамі. Ці ёсць яна сёння ў нас, гэтая Воля? Ці адчуваюць сябе гарадзенцы свабоднымі людзьмі?**



**Віктар Пятровіч, інжынер (фатаграфавацца не захацеў):**

- Канечне, я адчуваю сябе вольным. Вось іду па вуліцы, ніхто мяне не чапае. Дэманстрацыяў ніякіх няма. А калі б я ў якой удзельнічаў, то нічога б мне за гэта не было.



**Наталля, працуе ў банку:**

- У прынцыпе, я адчуваю сябе досыць вольна. Але я некаторы час жыла ў Расеі і магу сказаць, што там свабоды болей і на працы, і ў грамадскім жыцці.



**Аляксандр, доктар:**

- Несвабодным мяне робяць толькі мае ўласныя абмежаванні. А так на мяне ніхто і нічога не ціcне.



**Ганна Юргелевіч, працуе на «Азоце»:**

- Канечне не. Больш за ўсё я залежная ад дзяржавы, бо працую на дзяржаўным прадпрыемстве. І краіна наша не вольная - усё ў ёй вырашае Лукашэнка.



**Ніна Маліноўская, пенсіянерка:**

- Свабодная. Чаму не? І краіна наша таксама свабодная.



**Павал, выкладчык у медычным універсітэце:**

- Часткова. Настолькі, наколькі пры сённяшняй уладзе можа адчуваць сябе свабодным дзяржаўны служачы. Зараз створана шмат рычагоў уздзеяння на тых, хто працуе ў дзяржаўных установах.



**Рыгор Андрэевіч, пенсіянер:**

- Не. Хутчэй адчуваю сябе быдлам на павадку. За мяне, за беларуса, усё вырашае прыблуда невядома якога паходжання.

**Вольных людзей шукала**
**Алеся Сідлярэвіч**

Гарадзенскія філіі Грамады і «Фонду імя Льва Сапегі» выказваюць шчырыя спачуванні Алесю Краўцэвічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора - сьмерці маці.

Калектыў газеты ПАГОНЯ смуткуе разам з Алесем Краўцэвічам з прычыны яго вялікага гора - сьмерці самага дарагога чалавека - маці.

# Пяць міфаў пра БНР і яе Раду

**З надыходам 25 сакавіка - гадавіны ўтварэньня БНР - афіцыйныя тэлебачаньне, радыё ды прэса актывізуюць тэорыі, створаныя яшчэ ў камуністычныя гады пра адноўленую беларускую дзяржаву. Шмат выдумляецца і пра найвышэйшы орган БНР - Раду. Камуністычных лектараў зьмяняюць лукашэнкаўскія, да старых міфаў дадаюцца новыя. Але мэта, калі выказаць яе коратка, застаецца ранейшай - скампраметаваць БНР і яе Раду. Даказаць, што беларусы ня здольныя пражыць асобна ад Расеі, няздольныя ўвогуле стварыць незалежную дзяржаву. На некаторых з такіх міфаў і хацеў бы спыніцца.**

### 1. Нібыта нельга казаць пра існаваньне паўнавартаснай сувэрэннай дзяржавы, паколькі БНР не была прызнаная большасьцю дзяржаваў

Большасьцю дзяржаваў не былі прызнаныя і Савецкая Расея, а потым і Савецкі Саюз (ЗША ўсталявалі з Масквой дыпляматычныя адносіны толькі на пачатку 30-х гадоў) - аднак жа гісторыкі адлічваюць тэрмін утварэньня савецкай дзяржавы па факту, з 7 лістапада 1917 году, што лагічна (ці мо, усё ж, варта з моманту усталяваньня дыпляматычных адносінаў з ЗША?).

БНР была прызнаная Чэхіяй, Літвой, Эстоніяй, Грузіяй, Азэрбайджанам, Украінай - пералік быў бы большы, каб праз дзевяць месяцаў свайго ўтварэньня новая беларуская дзяржава не была б патопленая ў крыві бальшавіцкімі войскамі. БНР мела ўсе асноўныя атрыбуты дзяржаўнасьці - бел-чырвона-белы сьцяг, герб «Пагоня», вышэйшы орган (Раду), урад і дыпляматычныя місіі ў некаторых краінах.

### 2. Нібыта БНР была ўтвораная нямецкім кайзерам, а Рада БНР дзейнічала па загаду з Берліну

У звароце Нямецкаму Імпэрскаму канцлеру кіраўнік дэлегацыі БНР нагадваў, што «Рада зьвярнулася да носьбітаў Вярхоўнай улады Нямеччыны з просьбай наконт абароны беларускай дзяржаўнасьці й яе падтрымкі. На абодва гэтыя звароты з боку Нямеччыны паступіў адказ, з якога вынікае, што перашкодай да прызнаньня незалежнасьці Беларусі зьяўляецца Брэсцкая дамова паміж Нямеччынай і Расейскай Савецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай, паводле якой Нямеччына абавязалася не падтрымліваць новых дзяржаўных утвараньняў на тэрыторыі Расеі».

У цытаваным вышэй лісьце зьмешчаны яшчэ адзін заклік да нямецкага ўраду «афіцыйна прызнаць незалежнасьць Беларусі й даць магчымасьць Беларускаму Ўраду ажыцьцяўляць паўнамоцныя функцыі дзяржаўнага будаўніцтва і кіраваньня, а роўна і арганізацыю ўзброенай сілы ў мэтах самаабароны... Дэлегацыя мяркуе, што такія спрыяльныя стасункі з боку Нямеччыны паслужаць падставаю для сяброўскіх адносінаў абодвух дзяржаваў у будучыні».

Зварот кіраўніцтва новаўтворанай дзяржавы з просьбай наконт яе прызнаньня да іншых, тым больш магутных дзяржаваў (у дадзеным выпадку да Нямеччыны) - абсалютна натуральная зьява; якраз ненармальна, калі такія заханы ня робіцца. Дарэчы, аналагічны зварот быў накіраваны і да Аўстрыі.

Зьвернем увагу - гаворка ідзе пра раўнапраўныя адносіны. Беларусь успрымаецца кіраўніцтвам БНР як сувэрэнная дзяржава, якая павінна вырашаць свой лёс самастойна. Іншымі словамі, лёс гэты павінен вызначацца ў Менску, а не ў Берліне, у Маскве ці недзе яшчэ.

Аднак бальшавіцкая Масква і кайзэраўскі Берлін без удзелу беларусаў вырашылі лёс нашай краіны, падзяліўшы яе на кавалкі. Што было і нядзіўна - цяпер апублікавана шмат дакумантаў, якія пацьвярджаюць, што вяртаньне Леніна ў Расею і арганізацыя бальшавікамі кастрычніцкага перавароту былі фінансаваныя нямецкім Гэнштабам.

Яшчэ адным абвяржэньнем заяваў пра нібыта «пракайзэраўскі» характар БНР могуць быць шматлікія заявы і ноты пратэсту Ўраду БНР адносна нямецкай палітыкі: «Нямецкая акупацыя пазбавіла Беларускі Ўрад магчымасьці стварыць неабходную ўзброеную сілу для абароны недатыкальнасьці сваёй тэрыторыі» (Нота пратэсту Савету Міністраў БНР 8 студзеня 1918 году). «Пад час знаходжаньня немцаў на беларускай тэрыторыі яны вялі палітыку заігрываньня з бальшавікамі і, нягледзячы на неаднаразова распачатыя Радай БНР хадайніцтвы, не дазволілі прыступіць да стварэньня свайго войска» (Зварот дыпляматычнай місіі Рады БНР у Латвіі й Эстоніі да кіраўніка Дзяржздэпартаманту ЗША).

Праўда, калі падчас нямецкай акупацыі Рада БНР і яе ўрад маглі існаваць легальна, дык на акупаванай Польшчай тэрыторыі сябры Рады БНР былі арыштаваныя, роўна як і лідары беларускіх палітычных партыяў (Нота міністра замежных справаў БНР на Парыскай мірнай канфэрэнцыі, сакавік 1920 году).

Такім чынам, за часы свайго кароткага існаваньня БНР ніколі не была «пранямецкай» і «пракайзэраўскай», як не была яна і «прапольскай». З тым жа, што БССР была «прарасейскай», ня будуць спрачацца і лукашэнкаўскія гістарыёграфы. Чаго каштавала беларускаму народу сталінская калектывізацыя, зьнішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі, масавыя рэпрэсіі й пераўтварэньне краіны ў вайсковы «заходні фарпост СССР» - паўтараць ня трэба.

### 3. Нібыта Рада БНР склала свае паўнамоцтвы перад урадам БССР; кіраўніцтва БНР вярнулася ў Беларусь

На сваім пасяджэньні 15 кастрычніка 1925 году ў Берліне Савет Міністраў БНР на чале з А.Цьвікевічам прыняў рашэньне «абвясьціць ад сёняшняга дня ўрад БНР зьліквідаваным і спыніўшым сваю дзейнасьць». Шмат якія міністры БНР сапраўды вярнуліся ў БССР - і пазьней былі расстраляныя. Гэта гістарычны факт.

Але фактам зьяўляецца і тое, што паўнамоцтвы склаў толькі прызначаны Радай Савет Міністраў (урад), а не сама Рада БНР. Відавочна, спачатку камуністычныя, а потым і лукашэнкаўскія прапагандысты гуляюць на блізкасьці гучаньня словаў «урад» - «рада». У адрозьненьне ад Савету Міністраў БНР, Рада БНР як легітымны вышэйшы орган БНР захавала свае легітымныя паўнамоцтвы і захоўвае іх па сёньняшні дзень.

### 4. Нібыта ў часы другой сусьветнай вайны Рада БНР супрацоўнічала зь нямецкімі акупантамі

Рада БНР не магла супрацоўнічаць з акупантамі хоць бы таму, што знаходзілася па-за межамі Беларусі. У прыватнасьці, Прэзыдэнт Рады БНР Васіль Захарка вымушаны быў жыць у Празе. Пра ягоныя ўзаемаадносіны зь немцамі можа сьведчыць хоць бы тое, што пасьля яго сьмерці нямецкія акупацыйныя ўлады ў Чэхіі забаранілі на надмагільлі Васіля Захаркі зрабіць надпіс. Пасьля сьмерці спадара Захаркі прэзыдэнтам БНР стаў Абрамчык, які таксама быў у выгнаньні.

У часы нямецкай акупацыі ў Беларусі дзейнічала Беларуская Цэнтральная Рада на чале з Р.Астроўскім, якая стасункаў з Радай БНР ня мела.

### 5. Нібыта - «недавно какой-то Сурвилла появился, девяносто три года ему, создал в США руководство некое, короновали Позняка» (з выступу Аляксандра Лукашэнкі ў расейскай Дзяржаўнай Думе, 28 кастрычніка 1999 году)

Цяжка камэнтаваць Лукашэнку. Бо часам з патоку ягонай сьвядомасьці немагчыма вылучыць нейкую канкрэтную думку. І тым ня менш...

Ні Канстытуцыяй ЗША, ні статутам арганізацыяў беларускай дыяспары пасада «караля» не прадугледжаная. У ЗША наогул не прызнаюцца саслоўныя тытулы кшталту «барон», «граф», «герцаг». (А дэпутатаў і прэзыдэнтаў прызнаюць толькі законна абраных). Што да Рады БНР, дык у яе склад Зянон Станіслававіч Пазьняк не ўваходзіць. Хаця яму гэта прапаноўвалася (Пазьняк устрымаўся з пэўных палітычных меркаваньняў).

11 красавіка 1936 году ў Стоўбцах у сям'і настаўніка і мастака Уладзімера Шыманца нарадзілася дзяўчынка, якой далі імя Івонка, з чаго і вынікае, што цяперашняя Старшыня (Прэзыдэнт) Рады БНР - жаночага полу, і што ёй яшчэ вельмі далёка да 93-х гадоў.

Спадарыня Сурвілла скончыла Сарбонскі ўнівэрсытэт (Парыж) па спецыяльнасьці моваазнаўства - вывучала скандынаўскія мовы. Апроч таго, свабодна валодае ангельскай, францускай і гішпанскай. Роднай мовай лічыць беларускую. Выхоўвае дзьвюх дачок (Ганна - матэматык, Паўлінка - музыказнаўца, нядаўна абаранила дысэртацыю і стала прафэсарам) і ўнукаў. З 1969 году працавала кіраўніком аддзелу ў Канадзкім фэдэральным бюро перакладаў, з 1989 і да моманту абраньня Старшынёй Рады БНР у 1997 годзе ўзначальвала Канадзкі Фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, які сабраў і перадаў дапамогу ў мільёны даляраў.

Што да складу Рады БНР, дык хаця ў яе ўваходзяць і паважныя людзі сталага веку, але пасьля рэарганізацыі ў 1997 годзе ці не палову складаюць асобы маладзейшыя за 40 гадоў (а самаму маладому няма і 30). Гэта - эканамісты, юрысты, навукоўцы, выкладчыкі, прадпрымальнікі, праграмісты, мастакі, журналісты (прычым, людзі не апошнія ў сваіх прафэсіях). Яны жывуць у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, Нямеччыне, Чэхіі, Літве - але робяць усё магчымае, каб Беларусь вярнулася да дэмакратыі.

**Сяргей Навумчык,**
**Намесьнік Старшыні Рады БНР**

# У Гродне з'явілася БАМП

**У Гарадзенскім Доме культуры адбылася прэзэнтацыя мясцовай філіі Беларускага Аб'яднання маладых палітыкаў (БАМП).**

У сваім выступе старшыня Гарадзенскай арганізацыі БАМПу Юрый Істомін адзначыў, што асноўнай задачай яго арганізацыі з'яўляецца фармаванне якасна новай палітычнай кіраўнічай эліты Беларусі.

Пасля афіцыйнай часткі адбыўся канцэрт фальклорнага гурта «Стары Ольса» з Гомеля.

**Ул. інф.**

# Джон Армстронг: «Урад ЗША памятае 1410, 1514, 1863, 1918, 1991, 1996 гады беларускай гісторыі...»

**Беларусы ЗША пачалі сьвяткаваць 83-я ўгодкі БНР. У Нью-Ёрку прайшла сьвяточная імпрэза. З прамовай да прысутных зьвярнуўся кіраўнік беларускага аддзелу Дзяржздэпартамэнту ЗША Джон Армстронг, які прыляцеў з Вашынгтону на некалькі гадзінаў адмыслова для ўдзелу ў сьвяце.**

На пачатку сваёй прамовы спадар Армстронг працытаваў словы чэскага пісьменьніка Мілана Кундэры: «Барацьба чалавека супраць сілы і ўлады - гэта ёсьць барацьба памяці супраць забыцьця». Гэтыя словы сталіся лейтматывам выступу спадара Армстронга.

- Сёньня беларуская дыяспара, - сказаў Джон Армстронг, - адзначаючы Дзень 25 сакавіка, такім чынам вядзе барацьбу з аўтарытарнай уладай на Бацькаўшчыне. БНР - гэта была рэінкарнацыя, адраджэньне таго, што заслугоўвае беларускі народ: свабоды, дэмакратыі й незалежнасьці, - упэўнены Джон Армстронг. - Добрая памяць пра мінулую ёсьць добрая дапамога для стварэньня будучыні. Тыя людзі, што кажуць, нібыта грамадзяне Беларусі ня ў стане стварыць сваю дэмакратычную дзяржаву, проста ня ведаюць, як беларусы абаранялі ўласную свабоду пад Грундвальдам і Воршай, яны проста забыліся на вокліч «За нашу і вашу свабоду».

Ва ўрада ЗША, зазначыў Джон Армстронг, добрая памяць. Урад Злучаных Штатаў памятае пра той выбар, які зрабіў беларускі народ у 1990-1991 гадах. Урад ЗША, працягваў ён, памятае і антыканстытуцыйны і антыдэмакратычны рэфэрэндум 1996 году, які Аляксандр Лукашэнка скарыстаў, каб прыняць сваю новую канстытуцыю, распусьціць парлямант і працягнуць свой прэзыдэнцкі тэрмін.

- Урад ЗША памятае, - сказаў спадар Армстронг, што Лукашэнка не сыйшоў з пасады, калі скончыўся яго легітымны тэрмін 20 ліпеня 1999 году. Урад ЗША памятае, што Зянон Пазьняк, Сямён Шарэцкі, Тамара Віньнікава і шмат іншых грамадзянаў Беларусі былі вымушаныя пакінуць сваю радзіму і хавацца за мяжою з-за страху і небясьпекі ўдома. Урад ЗША памятае, што і сёньня за сямейнымі сталамі застаюцца пустыя месцы Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзьмітрыя Завадскага. Урад ЗША памятае, што замест праўдзівых незалежнага сьледзтва, рэжым Лукашэнкі стаў пагражаць сем'ям зьніклых.

Урад ЗША, працягваў кіраўнік беларускага аддзелу Дзяржздэпартамэнту ЗША, памятае пра Андрэя Клімава, што знаходзіцца ў турме. Памятае і парляманцкія выбары ў Беларусі, праведзеныя ў кастрычніку 2000 году, якія былі далёкія ад свабодных і незалежных і не былі прызнаныя за легітымныя сусьветнай супольнасьцю. З поўным разуменьнем гэтай памяці, сказаў Джон Армстронг, ніякіх нечаканасьцяў у амэрыканскай палітыцы ня будзе. Амэрыканскае стаўленьне да сёньняшніх уладаў Беларусі не зьмянілася з прыходам новай адміністрацыі ЗША. Галоўным у амэрыканскай палітыцы будзе настойлівае патрабаваньне аднаўленьня сапраўднай незалежнасьці Беларусі й дэмакратыі.

- Калі нехта не дачуў, што я сказаў, - заўважыў спадар Армстронг, і менавіта адмыслова для спадара Лукашэнкі хачу паўтарыць: амэрыканская палітыка да Беларусі не зьмянілася з прыходам у Вашынгтон новай адміністрацыі. Галоўнымі вартасьцямі яе застаюцца дэмакратыя й незалежнасьць Беларусі. Скончыў свой выступ спадар Джон Армстронг па-беларуску, словамі «Жыве Беларусь!» Апрача таго, на сустрэчы выступілі кіраўнікі беларускіх арганізацыяў і госьці. У сваім выступе кіраўнік Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Антон Шукялойць згадаў тыя часы, калі ён адзначаў Дзень БНР у Заходняй Беларусі разам з Антонам Луцкевічам і Янкам Станкевічам. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла вызначыла стварэньне БНР як важнейшую падзею ХХ стагодзьдзя.

- Нашыя продкі, - сказала Івонка Сурвілла, - мелі мужнасьць зрабіць гэты крок, і я жадаю сілы і мужнасьці ўсім беларусам, што змагаюцца зараз за незалежнасьць Беларусі.

Лідар БНФ Зянон Пазьняк у сваім выступе адзначыў зьмену лёзунгаў сёньняшняга вызвольнага руху ў Беларусі - не правы чалавека, а незалежнасьць Беларусі. Прывітальныя лісты беларусам Нью-Ёрку даслалі Сямён Шарэцкі і Васіль Быкаў, а таксама беларусы зь іншых краінаў.

**Галіна Прыгара,**
**Нью-Ёрк**

# Безвыніковы паход Статкевіча

**Лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч у парушэнне рашэнняў з'езда партыі зрабіў чарговую спробу трапіць у лукашэнкаўскую «палатку». Падчас давыбараў па выніках першага тура галасавання, што адбыўся 18 сакавіка, ён заняў трэцяе месца і згубіў усякія надзеі патрапіць у цяперашні беларускі парламент, які не прызнае сусветная супольнасць.**

Першае месца на Каліноўскай выбарчай акрузе горада Менска 30 працэнтаў галасоў атрымаў бізнесовец Нарэйка. У другім туры давыбараў з ім будзе весці барацьбу намесніца старшыні адміністрацыі гэтага раёна сталіцы Бур'як. Яна, як і Мікола Статкевіч, набрала 23 працэнты галасоў. Але яе перавага перад Статкевічам, паводле папярэдніх дадзеных, вызначаецца у 158 галасоў.

**Міхась Карпейчык**

# Рукі прэч ад Васіля Быкава!

**Мы, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, абураныя нечуваным паклёпам на народнага пісьменніка Васіля Быкава, які прагучаў 17 сакавіка на беларускім тэлебачанні і аўтарскай праграме Юрыя Азаронка «Тайныя спружыны палітыкі».**

Азаронак зняважыў Васіля Быкава. Гнеў яго ў першую чаргу выклікае «непрыкрытая праўда пра вайну» 1941-1945 гадоў, адлюстраванне гэтай вайны, партызанскага руху на Беларусі ў творах Васіля Быкава і Святланы Алексіевіч «без фальшу».

Азаронак ганьбіць Васіля Быкава і за тое, што ён у цяжкі для нашай краіны час стаў побач з тымі, хто выступае за свабоду і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. «Васіль Быкаў, - піша Генадзь Бураўкін, - не зламаўся, не пахіснуўся ў сваёй веры, не кінуў камень у свой народ».

Рукі прэч, паклёпнік, ад нашай нацыянальнай святыні, ад пісьменніка, чые творы даюць уратаванне ўсім людзям планеты, і ў першую чаргу беларусам, заклікаюць да любові ды міласэрнасці. Нам сорамна за тых, хто хоча абразіць лепшага сына нашай Айчыны.

Азаронак у сваім шаленстве нічога новага не сказаў. Выконвае замову тых, хто хоча захаваць усталяваны на Беларусі таталітарны паліцэйскі рэжым. Ён агучыў былых савецкіх генералаў, палкоўнікаў, партработнікаў, журналістаў, якія абвінавачваюць Васіля Быкава ў недаацэнцы вялікай Перамогі, у «непатрэбным акцэнтаванні на трагічным».

Былы генерал, старшыня Партыі беларускага патрыятычнага руху Анатоль Баранкевіч, папракае Васіля Быкава за «дэгераізацыю», за тое, што ён «адмовіўся ад сваіх герояў», на патрыятызме якіх выхоўвалася «цэлае пакаленне». Гэта хлусня, помста Васілю Быкаву за праўду.

Мы, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, заклікаем усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь узняць свой гнеўны голас у абарону вялікага пісьменніка і сына нашай шматпакутнай Радзімы, сумленне нацыі, выказаць спачуванне выгнанніку.

Лічым сваім чалавечым і грамадзянскім абавязкам унесці прапанову вылучыць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава на прысваенне лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Ён заслугоўвае гэтага высокага звання.

**Мікола Мельнікаў,**
**Леанід Закурдаеў,**
**удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны**

# Як Ірына Працко забараніла Юрася Мацко

**Запланаваная на заўтра, 23 сакавіка, у Выставачнай зале гарадзенскага Саюза мастакоў, што па вуліцы Ажэшка, творчая выстава вядомага гарадзенскага кавалера Юрася Мацко «Дзяды» - не адбудзецца. Яна забароненая, бо, як палічыла праўленне мясцовай філіі мастакоў, паграажае грамадзкаму парадку. Ініцыятаркай забароны стала дырэктарка Выставачнай залы Ірына Працко. Паводле заявы, якую яна падала на разгляд праўленню Саюза мастакоў, забараняецца выкарыстоўваць выстаўныя плошчы для рэкламы і прапаганды палітычных ідэяў.**

Што ж такога знайшла спадарыня Працко (безумоўна, інтэлігентны і разумны чалавек) у творах кавалера Мацко, што б прапагандавала палітычныя ідэі і пагражала грамадскаму парадку? Можа быць, каваныя жаночыя постаці, якія адлюстроўваюць сапраўдны мужчынскі густ вядомага кавалера? Ці, можа, гэта трыпціхам «Дзяды» Юрась Мацко задумаў парушыць грамадскі парадак?

У такім выпадку, брава, Юрась! Сваёй творчасцю ў Беларусі яшчэ ніхто не парушаў грамадскі парадак. Ходзяць легенды, што ў свой час пясняр Міхась Забэйда-Суміцкі скаланаў сваім галасам шыбы ў залах, а вось, каб грамадскі парадак - такога не было.

Творчую выставу, хочацца падкрэсліць, менавіта, творчую, Ірына Працко назвала не інакш як нацыяналістычным шабашам. І таму палічыла, што ні ў якім выпадку нельга дазваляць кавалю Мацко выстаўляць свае творы.

Спадарыня Працко катэгарычна «папрасіла» сяброў праўлення Саюза мастакоў забараніць правядзенне выставы і падпісаць гэтае рашэнне па прозвішчах.

На пасяджэнні прысутнічалі шэсць сяброў праўлення Саюза мастакоў: Сяргей Грыневіч, Васіль Мартынчук, Уладзя Панцялееў, Юрый Якавенка, Сяргей Асапрылка, Мікалай Бандарук. Большасць з іх прагаласавала за забарону правядзення 23 сакавіка творчай выставы кавалера Юрася Мацко. Безумоўна, большасці гэтых майстроў ёсць што губляць, многія з іх ужо сталыя людзі, захмялеўшыя ад вядомасці і прызнання. Дык навошта абараняць кагосьці, мая ж выстава ўжо прайшла?

У тэлефоннай размове з ПАГОНЯЙ Ірына Працко заявіла, што «забараняць ці не забараняць выставу - гэта ўнутраная справа Саюза мастакоў. Я не ведаю, да чаго рыхтаваўся Юрась Мацко, але да мастацкай выставы ён дакладна не рыхтаваўся. І не трэба шукаць палітыкі там, дзе яе няма».

Юрась сцвярджае, што не крыўдуе на сваіх калег па цэху. Яму шкада толькі паўгода, выкінутыя на падрыхтоўку выставы.

- Мне гэта не магло прысніцца нават у кашмарным сне. Такому рашэнню цяжка даць адназначную ацэнку. Гэта звычайны маразм», - каментуе ён забарону сваёй выставы.

Каваль упэўнены, што падставаю для забароны выставы, стала яго грамадзянская пазіцыя і «небяспечная» блізкасць даты адкрыцця выставы да 25 сакавіка - Свята Беларускай Незалежнасці.

**Іван Паўлёнак**

ПРОВЕДЕНИЕ ВЫСТАВКИ ЧЛЕНА БЕЛОРУССКОГО СОЮЗА ХУДОЖНИКОВ <u>МАЦКО Ю.</u>, ОТКРЫТИЕ КОТОРОЙ НАМЕЧЕНО НА 23 МАРТА 2001 ГОДА НЕВОЗМОЖНО ПО ПРИЧИНЕ НЕСООТВЕТСТВИЯ ИНТЕРЕСАМ ОБЛАСТНОЙ ОРГАНИЗАЦИИ БЕЛОРУССКОГО СОЮЗА ХУДОЖНИКОВ :

1 ИСПОЛЬЗОВАНИЕ ВЫСТАВОЧНЫХ ПЛОЩАДЕЙ ДЛЯ РЕКЛАМЫ И ПРОПАГАНДЫ ПОЛИТИЧЕСКИХ ИДЕЙ.
2 ОТСУТСТВИЕ ИНФОРМАЦИИ О ПРЕДПОЛАГАЕМОЙ ЭКСПОЗИЦИИ
3 УГРОЗА ОБЩЕСТВЕННОМУ ПРАВОПОРЯДКУ И ИМУЩЕСТВУ ВЫСТАВОЧНОГО ЗАЛА

В СВЯЗИ С ВЫШЕИЗЛОЖЕННЫМ, ПРОШУ НЕМЕДЛЕННО РАССМОТРЕТЬ НА ЗАСЕДАНИИ ПРАВЛЕНИЯ ООБСХ ВОПРОС О ЦЕЛЕСООБРАЗНОСТИ ПРОВЕДЕНИЯ ДАННОЙ ВЫСТАВКИ В ВЫСТАВОЧНОМ ЗАЛЕ ОБЛАСТНОЙ ОРГАНИЗАЦИИ БЕЛОРУССКОГО СОЮЗА ХУДОЖНИКОВ.

16.марта 2001 года

директор
ВЫСТАВОЧНОГО
ЗАЛА ООБСХ
ПРОЦКО И.В.

Як відаць з афіцыйнага дакумента, прычынай забароны творчай выставы Юрася Мацко сталі менавіта палітычныя падставы.

# «Таможенный вестник» у нагрузку

**Вельмі арыгінальны спосаб знайшлі інспектары гарадзенскай мытні дзеля распаўсюджвання часопіса «Таможенный вестник». На памежных пераходах ён прапануецца ў нагрузку тым, у каго знойдзены тыя ці іншыя парушэнні ў афармленні дакументацыі.**

На мінулым тыдні мне давялося наведаць Польшчу. Набыўшы ў Беластоку сёе-тое для запланаванага рамонту ў кватэры, мы з сям'ёю вярталіся праз памежны пераход «Брузгі-Кузніца». Зайшлі аплаціць мытную пошліну. Ля ўсіх разліковых акенцаў стаялі чэргі - хто аўтамабіль з Германіі перавозіў, хто некалькі тонаў яблыкаў быццам бы «для ўласнага карыстання», хто яшчэ нешта. У хлопца, што стаяў каля аднаго з акенцаў, мытны інспектар знайшоў у дакументах нейкія недакладнасці. Юнак ажно збялеў, спужаўся... Аднак справа вырашылася банальна проста... Не, хлопец не даваў хабару служачаму мытні. Інспектар папросту «запрапанаваў» яму набыць некалькі паасобнікаў часопіса «Таможенный вестник» (кошт аднаго нумара - тысяча дзвесце рублёў). Маўляў, пачытаеце, лепш пазнаёміцеся з пастановамі аб правілах выплаты мытных пошлінаў. У гэты момант сусед па чарзе заўважыў: «Хлопец яшчэ лёгка адкараскаўся. Вось мне на памежным пераходзе «Паграбнічны» даводзілася неадноййчы набываць ажно па дзесяць паасобнікаў гэтага самага часопіса»...

Між тым, каляровая вокладка часопіса «Таможенный вестник» традыцыйна заклікае шаноўнае спадарства зямчацць сваю рэкламу ў дадзеным выданні, якое, быццам бы «чытаюць больш за шэсць тысячаў кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацыяў, шматлікія кампаніяў і суб'ектаў гаспадарання». І гэта пры тым, што наклад часопіса складае тыя ж самыя шэсць тысяч паасобнікаў!

**Рэгіна Станкуце**

# У адкрытым лісце, які надрукаваў «Міліцэйскі веснік» у адказ на наш артыкул, не абвергнута ніводнага факта!

**Колькі мы ні пісалі, звяртаючыся да супрацоўнікаў гарадзенскай міліцыі, што хопіць ужо крыўдаваць на справядлівыя публікацыі ў ПАГОНІ, трэба проста лепей працаваць, а яны зноў пакрыўдзіліся. Гэтым разам на матэрыял «Міліцыянты замярзаюць на вуліцах. П'яныя».**

Самая лепшая газета міліцыянтаў Гарадзеншчыны «Міліцэйскі веснік» нават расшчодрылася для адкрытага ліста-крыўды на добры кавалак сваёй першай старонкі. І рубрыку прыдумалі адпаведную - «Хлусня тыдня». Мы ўжо чакалі, што доблесная міліцыя будзе «ў пух і прах» разбіваць нашыя факты і доказы. А што ў выніку? Чалавек з прозвішчам І.Алегаў хоча ведаць толькі адно - «зачем?», навошта ПАГОНЯ вынесла на суд чытачам адваротны бок жыцця беларускай міліцыі. Таму, мы шчыра здзіўленыя і ўдзячныя аўтару «адкрытага ліста», што ён «з годнасцю» прыняў наш артыкул і не стаў абвяргаць відавочнае. Мы нават згодныя прыняць заўвагу, што ў Камітэце па выкананні пакаранняў «закладваюць за пагоны» не міліцыянты, а супрацоўнікі ўнутранай службы.

Чаго не зробіш для таго, каб у Беларусі стала жыць бяспечней.

**Ул. інф.**

# Мытнікі паляпшаюць імідж і мяняюць адрас

**За два месяцы і 20 дзён гэтага года Гарадзенская рэгіянальная мытня затрымала пры спробах незаконнага вывазу 20 тысяч даляраў ЗША, 39 тысяч нямецкіх марак і пэўную колькасць валюты сумежных краінаў.**

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі 21 сакавіка начальнік гарадзенскай мытні Віктар Пракопчык, сёлета ў параўнанні з такім жа прамежкам часу мінулага года сярэдні рост мытных плацяжоў у бюджэт узрос ажно ўтрая. За ўвесь 2000-ы год было спагнана больш за 25 мільярдаў рублёў. Асаблівая вынікова нашыя мытнікі працуюць на ніве выяўлення кантрабанды і рэчаў, абмежаваных да правозу за мяжу. Так, у мінулую суботу ў Брузгах было затрымана 309 грамаў золата ў грамадзянкі Беларусі. У панядзелак, 19 сакавіка, пры спробе вывезці за мяжу ў асабістых рэчах нашага суайчынніка былі знойдзеныя чатыры каштоўныя беларускія абразы. Увогуле, гарадзенская мытня рознымі мытнымі плацяжамі дае восем працэнтаў даходнай часткі бюджэту краіны.

- Не заўсёды можна чуць толькі добрае пра работу нашай службы, - гаворыць Віктар Пракопчык. - І першы накірунак нашай работы - паляпшэнне іміджу ў вачах грамадзянаў. Лічбы з адзела уласнай бяспекі мытні сведчаць, што сёлета мытнікі выглядаюць надзвычай законапаслухмянымі: абвешчана толькі пяць вымоваў і дзве заўвагі за нязначныя парушэнні. Да суда не прыцягнута ніводнага мытніка.

Асаблівая ўвага журналістаў падчас прэс-канферэнцыі была звернута на неабходнасць рамонту і рэканструкцыі новага будынка мытні па вуліцы Карскага,53. Мытнікі прапанавалі «суб'ектам гаспадарання, якія знаходзяцца на тэрыторыі дзеяння Гарадзенскай рэгіянальнай мытні, калі яны змогуць, дапамагчы ў рамонце». Можна грашыма, а можна і будматэрыяламі. А ўсяго на рамонт патрэбна каля 1,5 мільярда рублёў.

Працуе на гарадзенскай мытні 600 чалавек. Для маладых людзей, што мараць апрануць блакітную форму мытніка, паведамляем: 3-5 красавіка аддзел кадраў планує правесці субяседаванне на залічэнне кандыдатаў у рэзерв мытнай службы. Патрабаванні - узрост да 30-ці гадоў і вышэйшая юрыдычная ці эканамічная адукацыя.

**Алена Сіневіч**

# СНІД атакуе Гродна

**Паводле словаў Яніны Шарэнды, загадчыцы Цэнтра прафілактыкі і дыягностыкі СНІДу, бліжэйшым часам у Гродне чакаецца рэзкі ўздым захворвання на СНІД.**

На першае сакавіка 2001 года захварэла 119 чалавек. Ужо за гэты год зафіксаваныя чатыры выпадкі смяротнай хваробы: два ў Гродне і два ў Лідзе. Прычым у Лідзе становішча з віч-інфікаванымі больш-менш стабілізавалася. Чаго не скажаш пра Гродна - выпадкаў захворвання на СНІД становіцца ўсё болей і болей.

Цэнтр прафілактыкі і дыягностыкі СНІДу разам з абласным камітэтам «Чырвоны крыж» плануюць у хуткім часе правесці акцыю для аказання сацыяльнай і маральнай падтрымкі віч-інфікаваных.

**Надзея Салыга**

# Музпедвучэльня запрашае абітурыентаў

**23 сакавіка гарадзенская музычна-педагагічная вучэльня праводзіць для сваіх абітурыентаў Дзень адчыненых дзвярэй.**

Запрашэнні адпраўленыя ва ўсе музычныя школы гарадзенскай вобласці. У вучэльні чакаюць таксама ўсіх ахвотных выпускнікоў сярэдніх школаў.

Абітурыенты будуць праінфармаваныя аб тым, якія іспыты ім давядзецца здаваць і што належыць рыхтаваць да паступлення ў вучэльню. Будзе дзейнічаць шэсць кансультацыйных кабінетаў, дзе выкладчыкі праслухаюць гранне абітурыентаў на музычных інструментах. Кансультацыі пачнуцца заўтра а 9-й гадзіне.

**Алеся Сідлярэвіч**

# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14




### ПРАДАЮ

Капот для а/м «Ford Sierra». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

Рухавік і задні мост М-412 у добрым стане ды іншыя запчасткі. Тэл. 74-37-16.

Дачу ў г.Ваўкавыск, ёсць водаправод. Тэл. у Ваўкавыску: 2-13-21 (пасля 17.00).

Дачу (ад Фолюша - два кіламетры): дом, печка, вада, сад, агарод; гараж (у р-не Гарадзенскага мясакамбіната), танна; лінолеум (12 метраў). Тэл. 44-09-01.

Дачу за вёскай Гумбачы (чыгуначная станцыя «Багушоўка»): блочны дом, асвятленне, вада, пячное ацяпленне, склеп. Танна. Тэл. 44-49-51.

Дом ў вёсцы Святліца (Бярэзінскі раён): паравое ацяпленне, агарод, побач - рака Бярэзіна. Тэл. (8-215) 5-41-87.

А/м BMW-518, на беларускіх нумарах, 1979 года выпуску, у добрым стане, газ, бензін. Кошт - 600 у.а. Альбо мяняю на іншую аўтамашыну. Прапаноўвайце варыянты. Тэл. у г.п.Воранава: (8-294) 2-13-46 (пасля 19.00).

Масквіч-412 на запчасткі. Тэл. 74-37-16.

ВАЗ-21011. Тэл. 72-59-38 (пасля 18.00).

Ложак (1,5), ручную швачную машынку, касметычны інгалятар «Рамонак», крэсла. Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

Дзіцячую каляску-тройку ў добрым стане. Тэл. (8-214) 3-62-29.

Гараж у раёне вуліцы Урублеўскага (непадалёк ад «Вясёлкі»). Тэл. 6-12-59.

Пэйджар падключаны. Кошт - 45 у.а. Тэл. 78-20-11 ці 73-00-00 (аб. 95352).

Шыкоўны вясельны строй (танна), жаночы плашч (памер 46-48), электрапрывад да швачнай машыны. Тэл. 76-46-53 (у любы час).

Руберойд РКП-400, РКП-350, біту, сухую неабрэзную дошку (50 мм). Тэл. 76-50-13.

Новыя часткі да ПК. Гарантыя. Тэл. (8-029) 631-15-09.

Бензапілу «Урал-2» (б/у) і запчасткі да яе. Тэл. 78-20-11.

Мадэлі парусных караблёў. Тэл. 31-50-27.

### КУПЛЮ

Таршэр у працоўным стане. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 14.00, з 15.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану).

Футбольныя сувеніры краінаў СНД (шалікі, значкі ды інш.). Танна. Тэл. 76-41-58.

Калонкі «Радыётэхніка» (АС 30 Вт). Кошт - да 20 у.а. Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Раскошную 3-пакаёвую кватэру; металічныя слупы і плот, смалу. Тэл. 33-14-27.

Слоўнікі, падручнікі па балгарскай, ангельскай, беларускай, нямецкай, польскай, чэшскай мовах. Тэл. 2-85-77.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

БАМаўскі чэк або аблігацыю на аўтамабіль (БАМ, Якуцыя) для калекцыі. Дорага. Тэл. у Барысаве (8-277) 4-42-01.

### МЯНЯЮ

2-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў добрым раёне Гомеля (жыл.плошча 34,5 кв.м, асобныя пакоі) на кватэру ў Гродне. Тэл. у Гродне 78-25-70, у Гомелі 56-29-55.

### ПАСЛУГІ

Распрацуем ЛЕСАСЕКУ. Тэл. (8-214) 3-62-29. Ліцэнзія N1257 ад 24.03.2000 года, выдадзеная Мінсельгасам.

ДОКТАР СЯРГЕЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ КАЛЯДА
Інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ, КУРЭННЯ. Найноўшыя методыкі.
Тэл. 74-35-46 да 18.00
(Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Шукаю працу (ручное вязанне: спіцы, кручок). Хутка, прыгожа. Тэл. 72-58-94.

Абарона ў Гаспадарчым судзе. Ліц. МА N932 ад 26.12.2000 года. Тэл. 33-68-47.

Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі ды праву. Тэл. 47-32-70.

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Набор тэкста на камп'ютары, раздрукоўка. Тэл. 74-37-16.

Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпетытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Рэпетытарства па матэматыцы, школьны курс. Тэл. 72-22-77.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Французская мова: пераклады, кантрольныя работы, рэпетытарства. Тэл. 31-44-74 (пасля 19.00).

Набор тэкстаў, курсавых работаў на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

Польская, балгарская і беларуская мовы. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Цэнтральная аварыйная дыспетчарская служба (ЦАДС) аказвае паслугі экскаватарам (ЮМЗ), прадпрыемствам, арганізацыям, прыватным асобам. Тэл. 0-75; а таксама тэл. 2-03-15 (пасля 18.00).

Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 274-46-82, 211-00-00, альбо 9-39-87 (запрасіць Вольгу).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпетытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 78-16-81.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

Рамонт пыласосаў усіх тыпаў з гарантыяй. Выраб шматразовых фільтраў да імпартных пыласосаў. Ліц. N02645 да 2004 года. Тэл. для даведак: 6-45-74.

Сканаванне, раздрукоўка на фотапрынтары, фотамантаж. Танна. Устаноўка праграмаў на камп'ютар, дапамога пры набыцці ПК, рэпетытарства. Тэл. 31-07-48 (запрасіць Віктара).

### РОЗНАЕ

Маладая сям'я здыме дом, палову дома ці 1-пакаёвую кватэру з мэбляй (часткова). Кошт - да 35 у.а. Тэл. 47-23-88.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

Здаю пакой з мэбляй і тэлефонам. Тэл. 6-66-96.

Прапішу двух чалавек. Тэл. 6-83-19.

23-гадовы хлопец шукае працу мантажніка на прадпрыемстве. Тэл. 76-41-58.

Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне на вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Выстава працуе кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 гадзін.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

Паважаныя гарадзенцы! Любая ваша дапамога, міласэрнасць і проста добрыя сэрцы патрэбныя Гарадзенскай арганізацыі аховы жывёлаў. Тэл. 44-92-79, 72-15-05.

Грамадскае аб'яднанне «Дабрыня» аддасць у добрыя рукі катоў і сабак. Бясплатна. Тэл. 47-02-47.

### ЗНАЁМСТВЫ

Шукаю сапраўднага мужчыну да 54-х гадоў, моцнага, надзейнага, добрага і тактычнага. Пра сябе: 35/162, сімпатычная, разведзена. Пісаць: г.Гродна, п/а 26, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта V-ДР N562848.

Пазнаёмлюся з дзяўчынай ці жанчынай з МУС. Пра сябе: 34/166, не жанаты, не п'ю, беларус. Пісаць: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 0601024.

### ВІНШАВАННІ

Віншуем *Уладзіміра Аляксеевіча і Алеся Булейскіх* з Днём нараджэння! Няхай не закрануць іх сэрцы беды, боль і трывогі! Хай самота не знойдзе дарогі ў іх дом, дзе будзе панаваць толькі шчасце і згода!

Сям'я Севярын



## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археалагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Круглая зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея. Сенатарская зала. Да 29 красавіка дзейнічае выстава «Цудоўны свет галаграмаў». Экспазіцыя «Новыя набыткі»: жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва сучасных беларускіх мастакоў.

**Галерэя «У Майстра» (Кірава,8).** Дзейнічае III міжнародная выстава графікі «Mini-print - Гародня 2001», у якой прадстаўленыя работы Ю.Якавенкі, Ул.Вішнеўскага, В.Саўчанкі, В.Шобы, а таксама працы аўтараў з Германіі, Бельгіі, Галандыі ды іншых краінаў.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вуліца Ажэшкі,39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац спорту.** Катанне на льду: кожны аўторак - з 20.30 да 21.30, кожную нядзелю - з 17.00 да 18.00. Кошт квітка для дарослых - 1000 рублёў, для дзяцей - 500 рублёў.

**Тэатр лялек** запрашае дзяцей г.Гродна і вобласці ў перыяд веснавых канікулаў на спектаклі: 28 сакавіка ў 12.00 і 17.00 - Беластоцкі тэатр лялек «Panstwo Fajnackich»; 29, 30 сакавіка ў 10.30 і 31 сакавіка ў 12.00 - «Луна на галінцы». Для дарослых: 27 сакавіка - «Дзень тэатра» - акторскі капуснік. Пачатак у 17.00. Лядовы палац спорту. 24 сакавіка - Барыс Майсееў са сваім шоу «Па сакрэту...». Пачатак у 19.00.

### Моладзевыя дыскатэкі

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэбар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**«Калізей-2000».** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Начны клуб «Казанова».** Працуе з серады па нядзелю з 22.00 да 05.00. Па суботах - шоу-праграмы.

ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы

12 Імя і прозвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________

Тэкст ____________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.**

# Траўмы – прычына паразы




**Датэрміновы «вылет» нашай хакейнай каманды «Нёман» з Кубка УЕХЛ даў магчымасць гарадзенскім хакеістам адпачыць і як мага лепей падрыхтавацца да вырашальных гульняў нацыянальнага чэмпіянату.**

Як паведаміў галоўны трэнер гарадзенцаў Анатоль Варывончык, прычынай паразы ў гульнях з «Рыгай» у 1/4 Кубка УЕХЛ з'яўляюцца шматлікія траўмы і пашкоджанні хакеістаў, асабліва абаронцаў. Напрыклад, для Аляксея Пячонкіна і Дзмітрыя Нічыпухіна сёлетні сезон скончыўся, нягледзячы на тое, што гіпс абудвум ужо знялі. Аляксандр Пстыга, які гуляў на працягу апошняга месяца, маючы запаленне нырак, на гэтым тыдні злёг у шпіталь з ускладненнем. У Ільшата Кадырава сур'ёзна пашкоджана нага, аднак пакуль ён будзе гуляць. Прыемна ўжо тое, што пачаў трэніравацца Уладзімір Дзееў.

Ужо вядомы далейшы графік гульняў «Нёмана» ў чэмпіянаце Беларусі. Учора і сёння нашыя хакеісты сустракаюцца ў Наваполацку з «Хімікам-ШВСМ» (Віцебск). 25 сакавіка прымаюць «Менск» (пачатак гульні ў 17.00). 28 сакавіка нёманцы згуляюць на выездзе з «Гомелем», і першага красавіка - у Гродне з наваполацкім «Палімірам».

У Кубку УЕХЛ вызначыліся фіналісты. Імі сталі «Рыга» і «Беркут», якія ў паўфінале тройчы запар перамаглі адпаведна «Менск» і «Металургс».

# «Алімпія» зрабіла першы крок да фіналу

**Дзевяты жаночы баскетбольны чэмпіянат Беларусі выходзіць на сваю фінішную прамую. У мінулую суботу ў Гродне і Барысаве адбыліся першыя паўфінальныя матчы, у якіх вызначацца фіналісткі, якія і пазмагаюцца за вышэйшую прыступку жаночага баскетбольнага алімпу.**

У Гродне, дзе сустракаліся мясцовая каманда «Алімпія» і «РШВСМ-Гарызонт», матч распачаўся, як звычайна для такіх сустрэчаў, з вялікай колькасцю памылак. Таму гарадзенскія баскетбалісткі пасля першай дзесяціхвілінкі саступілі - 17:18. Але ўжо ў другой чвэрці, дзякуючы выдатнай гульні Гапонавай і Шупляцовай, «Алімпія» здолела прыбавіць у руху і дакладнасці кідкоў. І, у выніку, пайшлі на вялікі перапынак з перавагай у 13 ачкоў (44:33). Усё, што здолелі зрабіць менчанкі ў другой палове матча, - гэта скараціць лік у апошняй чвэрці да пяці ачкоў.

Паўфіналы доўжацца да трох перамог. Наступныя гульні адбудуцца 24-25 сакавіка ў Менску.

**«Алімпія»** (Гродна) - **«РШВСМ-Гарызонт»** (Менск) - 89:84 (17:18, 27:13, 24:22, 21:31) (Дрозд - 27 ачкоў, Шупляцова - 23, Гапонава - 17, Панасюк - 12); **«Бярэзіна-АФ»** (Барысаў) - **«РШВСМ-РВАР»** (Менск) - 80:58.

# «Гродна-93» супраць цемнаскурага квартэту

**Баскетбалісты «Гродна-93», якія вядуць планамерную падрыхтоўку да другога адборавага тура Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лігі, які адбудзецца ў Гродне 25-26 сакавіка ў спарткомплексе «Вікторыя», згулялі дзве таварыскія сустрэчы ў Беластоку з мясцовай камандай першага польскага дывізіёну «Мірпол». На турнір наша каманда ставіць толькі адну задачу - заняць першае месца і выйсці ў «Фінал чатырох», дзе і вырашыцца, хто атрымае права гуляць у чэмпіянаце ПЕБЛ. У якім стане знаходзіцца «Гродна-93» перад адказнымі міжнароднымі сустрэчамі, мы запыталіся ў галоўнага трэнера каманды Аляксандра Барысава.**

***- Сан Саныч, дзве таварыскія гульні з польскай камандай нават першага дывізіёну былі, напэўна, вельмі дарэчы пры падрыхтоўцы да адказных гульняў за месца ў ПЕБЛ?***

- Мы з карысцю правялі гэтыя сустрэчы з палякамі. Нас запрасіла сама беластоцкая каманда «Мірпол». Давялося нават перанесці гульні чэмпіянату Беларусі для таго, каб атрымаць больш моцны спарынг перад другім адборавым турам ПЕБЛ. У нацыянальным чэмпіянаце наша каманда асаблівых праблемаў не зазнала. Таму адмаўляцца ад магчымасці згуляць з польскай камандай было недазвальняльнай раскошаю.

«Мірпол» нашмат мацней за каманды нашага чэмпіянату. Мы згулялі з палякамі два спарынгі. У першай гульні прайгралі з лікам - 99:89, а ў другой перамаглі - 82:70. У гэтых сустрэчах выявіліся пэўныя недахопы нашай каманды, якія ў тыя дні, што засталіся да гульняў адборавага тура, неабходна выправіць.

***- А як удалося зрабіць, здавалася б, немагчымае: дамагчыся права правядзення гэтага тура ў нашым горадзе?***

- За гэта трэба выказаць вялікую падзяку прэзідэнту «Гродна-93» Леаніду Катку, які ўвесь час кантактаваў з кіраўніцтвам ПЕБЛ. Яны пайшлі нам насустрач, і даверылі не толькі правядзенне гэтага тура, але і дазволілі праводзіць гульні не ў Лядовым палацы, а ў нашай зале спарткомплексу «Вікторыя». І для нас гэта выгадна. Мы тут трэніруемся і гуляем.

А ў перспектыве, калі мы трапім у Лігу, усё роўна трэба будзе вырашаць пытанне адносна набыцця баскетбольнага паркету.



Аляксандр Барысаў

***- Ці валодаеце інфармацыяй пра свайго першага суперніка - нямецкую каманду «Олівер»?***

- «Олівер» гуляе ў германскай бундэслізе, што ўжо гаворыць пра многае. У нас ёсць відэазапіс гульні немцаў, які мы праглядалі ўсёй камандай. Убачылі, што ў іх гульня складаецца з актыўнай абароны, часцяком ужываюць зонны прэсінг. У складзе «Олівера» ёсць чатыры цёмнаскурыя баскетбалісты, і усе яны ўваходзяць у стартавую пяцёрку.

***- Як мяркуеце правесці час, які застаўся да гульняў другога адборавага тура?***

- Мы перанеслі суботнюю гульню чэмпіянату Беларусі для таго, каб як мага лепей падрыхтавацца да першай гульні з нямецкай камандай, якая шмат што вырашыць. Але самае галоўнае: неабходна псіхалагічна падрыхтаваць нашых баскетбалістаў. Калі гэта ўдасца, мы здолеем прадэманстраваць сваю лепшую гульню.

**Падрыхтаваў
Дзяніс Курчэўскі**

**P.S.** Чэмпіянат Беларусі. 20-21 сакавіка **«Гродна 93» - «РТІ» - 100:73, 93:79.**

# А ў пітона - насмарк...

**25 сакавіка - апошні дзень працы ў горадзе Гродна Віцебскай філіі расейскага зоатэрарыума «Урада». Гэта ўжо другая, за два месяцы, выстава рэптыліяў у Гродне. На жаль, яна сталася не такой удалай, як першая. Тэрарыум з'язджае з некаторымі стратамі ў шэрагах жывёлаў.**



Віктар Ганчарэнка са сваімі гадаванцамі-пітонамі

Падчас транспарціроўкі «экспанатаў» з Радуні ў Гродна ў грымучай змяі адваліліся чатыры звёны - бразготкі на хвасце. І цяпер яна грыміць толькі трыма.

- Атрутныя змеі даволі агрэсіўныя. Калі я перакідваў змяю з каша ў кош, яна стала абараняцца, няўдала выкруцілася і паламала хвост, - распавядае экскурсавод тэрарыума Віктар Ганчарэнка.

Змерзлі і здохлі скарпіён і прусакі. Пяць кубінскіх прусакоў страцілі «выстаўны выгляд», і іх выкінулі. А чорны імператарскі скарпіён і два шыпучыя мадагаскарскія прусакі яшчэ экспануюцца. Адзін прусак нават яшчэ здольны варушыць вусікамі і патроху перасоўвацца. Як сцвярджае Віктар, у нашым клімаце цеплалюбівыя жывёлы даволі часта хварэюць ці здыхаюць.

- У тыгровага пітона дагэтуль насмарк, - гаворыць экскурсавод зоатэрарыума, асцярожна раскрывае пашчу змяі і заглядае ў яе.

Падчас першай выставы гарадзенскія дзеці падаравалі тэрарыуму вожыка. Але беларускі гадаванец стаўся для працаўнікоў зоатэрарыума больш небяспечным, чым атрутныя змеі. Выбраўся ўначы з каша і ўкусіў работніцу. У Шчучыне яго здалі ў мясцовы «чырвоны куток».

Выстава яшчэ працуе ў Палацы культуры тэкстыльшчыкаў. Квіткі для дарослых каштуюць 800 рублёў, **для дзяцей - 600 рублёў**.

# Брус Уіліс у кінатэатры імя Пушкіна

**Заўтра, 23 сакавіка, гарадзенскі кінатэатр імя А.Пушкіна распачынае паказ фільмаў на ангельскай мове.**

Для дэманстрацыі на шырокім кінаэкране адабраныя амерыканскія фільмы - прызёры міжнародных кінафестываляў.

А 16-й гадзіне 23 сакавіка будзе паказаны фільм «Расплата» з Мэлам Гібсанам. Кошт уваходнага квітка - 170 рублёў.

27 сакавіка ў 16.00 зноў жа за 170 рублёў гледачы змогуць паслухаць неадубліраваную мову Бруса Уіліса ў «Шостым пачуцці». А 30 сакавіка будзе паказана «Выратаванне шэрагова Райна» (пачатак у 16.00, кошт квітка - 195 рублёў).

Ініцыявала паказ фільмаў дырэктарка кінатэатра Галіна Лобач.

- Яшчэ ў мінулым годзе я размаўляла на гэты конт з завучам школы-гімназіі, дзе вучыцца мая дачка. Ангельская мова сёння вельмі папулярная. Але, высветлілася, што тым, хто яе вывучае, не стае гучання натуральнай размоўнай ангельскай мовы, - гаворыць дырэктарка кінатэатра імя А.Пушкіна.

Глядацкія групы могуць замовіць сабе асобны сеанс.

**Алеся Сідлярэвіч**




♈ **Баран (21.03-20.04).** Пастарайцеся менш расказваць пра свае адносіны з каханай(-ым) сябрам і знаёмым. У Вашым атачэнні ёсць і тыя, што не радуюцца Вашаму шчасцю.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Не палохайцеся зменаў у прафесійнай сферы. Фартуна пастаўіцца да Вас надзвычай прыхільна, таму атрымаеце дапамогу і падтрымку.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Разбярыцеся з неадкладнымі справамі. Калі плануеце наведаць дантыста, то найбольш спрыяльныя дні - чацвер і пятніца.

♋ **Рак (22.06-22.07).** У Вас бліскуча атрымаецца спроба стаць таемным(-ай) і загадкавым(-ай), калі будзе такая ахвота. Фінансавае становішча хутка не будзе выклікаць асцярогі.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Вас могуць азадачыць прафесійныя праблемы. Давядзецца прымаць рашучыя меры, у тым ліку і тыя, што Вам не зусім да спадобы.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Нервовыя перагрузкі могуць выклікаць абвастрэнне хранічных захворванняў. Таму не перагружайце сябе працай праз меру.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** У сферы сямейных адносінаў Вас падпільноўваюць падводныя камяні. Умела абысці іх Вам дапамогуць тактоўнасць, фантазія, разважнасць і дасціпнасць.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Калі за доўгія зімовыя месяцы Вы сталі крыху гультаяватым(-ай), закінулі заняткі спортам, зірніце на каляндар. Час абудзіцца ад спячкі! Дзейнічайце!

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Выдатна, калі Вы ўмееце захоўваць тайны ў глыбінях Вашай душы. Хутка атрымаеце інфармацыю, ведаць якую Вашым знаёмым зусім не абавязкова.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Асцерагайцеся скразнякоў. Веснавая прастуда, якую яны могуць справакаваць, наўрад ці ўзрадуе Вас.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Трымайце свае грандыёзныя ідэі ды планы пры сабе. Лепей выяўляйце ініцыятыву ва ўвасабленні іх на практыцы.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Не забывайцеся не толькі прымаць каханне, але аддаваць яго напоўніцу. Не за гарамі дужа спрыяльны перыяд у Вашым жыцці.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 21.03.2001 г. Замова 957 Наклад 7 739

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей